# АСЦЯРОЖНЫ — ЗНАЧЫЦЬ АБАРОНЕНЫ

*Табе, сябрук, каб змалку ведаў,*
*Дзе сховы зла, пакут і бедаў,*
*А сам іх абмінуць не можаш,—*
*Вось гэта кніга дапаможа.*

*Чаму здараюцца пажары?*
*Адкуль і ў лесе ёсць ахвяры?*
*«Не ўмеем бачыць небяспеку»,—*
*Вучылі мудрацы спрадвеку.*

*Парады іх ацэніць кожны:*
*Няшчасцяў менш у асцярожных.*
*Перачытай і ўсё запомні, —*
*Каб ведаў гэта ты ўжо сёння.*







Хоць мама з татам недалёка,
Гуляем там, дзе неглыбока,
А каб далей не заплывалі,
Стаяць буйкі на пеннай хвалі.

Забыў плывец пра асцярогу,
І крык пачуўся: «На падмогу!»
Што тут рабіць, я добра знаю:
Выратавальны круг кідаю.



Сівыя наплываюць хмары
І навальніца ўжо ў разгары.
Маланак ззянне, рокат грому —
З двара спяшаюся дадому!





У лесе і ля рэчкі ўлетку
Звяркі цікуюць
неўзаметку.
Стаіць спякота,
многа хлуду —
Таму касцёр
паліць не буду!



Бяда ад насякомых шкодных:
І шэршань тут,
і клешч нязводны.
З паходу вернешся здаровы,
Калі ёсць сродкі
спецаховы.



Блукаў з кашом,
грыбнік заўзяты,
Гляджу: вакол
не тыя шаты.
Крычу «Ау!» — нідзе нікога,
Мабільнік мой — мне
дапамога!



Канфорка гнеўна зашумела:
Кіпіць каструля ў пене белай.
Сушыць адзенне над плітою?
Паспех абернецца бядою!







Калі што здарыцца
ў нас дома,
Куды звяртацца —
мне вядома.
Бяспекі службы з нумарамі
Заўжды ў мяне
перад вачамі.








Пажар мы ствараем часам
Распаленым электрапрасам.
Таму я прас і не чапаю:
Лепш маму з татам пачакаю.



З пліты дыхнула
пахам газу —
Закрыю вентыль я адразу.
І вокны насцеж адчыняю,
Бяспекі службу выклікаю.



Адзін застаўшыся ў кватэры,
Чужым не адчыняю дзверы.
Сям'я збярэцца дзесьці ў восем,
Тады і госця мы запросім.





Стаяць тут розныя флаконы,
У іх — і пасты, і ласьёны.
Што для чаго, я кепска знаю,
Таму флаконы не кранаю.



*Запалкі куплены*
*для справы —*
*Не для дзіцячае забавы.*
*Ад іх пажар, бяда і гора, —*
*Так мама з татам*
*мне гавораць.*





*Дэтэктар бачыш каля столі?*
*Дык не чапай яго ніколі.*
*Пачуўшы дым у момант кожны,*
*Прыбор падасць сігнал трывожны.*







*Бацькі на працы.*
*Прыйдуць позна.*
*Паўзе ў закуткі цемень грозна.*
*Святло ўключаю —*
*зверху, збоку,*
*Час працаваць электратоку.*



*Занятак для сям'і не марны —*
*Складаем план супрацьпажарны.*
*Так можа быць — і дым, і сажа,*
*План выйсце нам з агню падкажа.*



*Як чыста прыбярэм пакоі,*
*Тады й гуляем у спакоі.*
*Да акуратных,*
*хто не шкодзіць,*
*Бяда звычайна*
*не прыходзіць.*



*Убачу дым з вакон і шчылін —*
*Раблю я так, як і вучылі.*
*Пажарнай нумар набіраю*
*Ды адрас бедства называю.*



*Агонь і дым сцяной наўкола —*
*Прарваць старайся гэта кола.*
*Ратуй малых — ты хлопчык рослы,*
*Ды на падмогу кліч дарослых.*



*Не лішне знаць, што*
*ў час пажару*
*Тут, на падлозе, меней гару.*
*Калі ж усе без толку меры,*
*Дапяць паўзком старайся*
*ў дзверы.*



*Агонь за сценкай!*
*Вось прыкмета:*
*Дзвярная ручка разагрэта.*
*Бяда застала*
*на парозе —*
*Крычы ў акно аб дапамозе.*





Няма ў агні, як кажуць, броду,
Не лезь пад стол або ў камоду.
Бяжы на двор, там хтосьці будзе,
Што ты жывы —
хай бачаць людзі.

Агонь прынёс багата шкоды,
Іскрыцца жар, плыве куродым.
Жыццю пагроза — зверху, знізу,
Дык не бадзяйцеся паблізу.

Адчуў: затлелася адзенне,
Дык упадзі ў адно імгненне,
Качайся долу ўлева-ўправа,
Каб збіць агонь з апраткі жвава.





*У лесе будзь заўсёды пільны,*
*На ўчынкі добрыя — мабільны.*
*Клубіцца дым дзесь у дуброве —*
*Хутчэй звані ляснной ахове.*



*Вось надзвычайнае здарэнне —*
*У бедака абмарачэнне.*
*Дык па «103» звані з дарогі,*
*То нумар хуткай дапамогі.*



*Убачыў:*
*злодзей на балконе —*
*«102» звані па тэлефоне.*
*Дзяжурны ўміг пачуе зумер —*
*То службы*
*міліцэйскай нумар.*



Мабільнік твой для спраў харошых,
Не цацка, што каштуе грошык.
Званіць па ім на спрэчку, жартам
Выратавальнікам не варта.





Куды пабег кот-
валацуга?
Чаму красворд
даецца туга?
Бяспекі службам
не званіце!
Марожанага
не прасіце!

Падыме МНС на ногі
Ілжывы твой званок трывогі.
У гэты ж час на бедства недзе
Каго чакаюць — не прыедзе.







На рэчцы лёд бывае тонкі,
Сняжком прысыпаны палонкі.
На санках і каньках малому
Гуляць надзейней каля дому.

Іскрыцца снег пасля завеі,
Ды феерверкі не ад феі:
Агні паліць умее тата,
А мы здалёк глядзім на свята!



Гары высокай дзеці рады,
На жаль, тут спуск
да аўтастрады.
Ляцім з пакатага адхону,
Ды гульні й тут
пад забаронай!

*Агонь адкрыты (свечкі, вата)*
*Уміг азмрочыць можа свята.*
*Хай цешыць лямпачак мігценне,*
*Ды падключыць іх — трэба ўменне.*



*Патрэскваў лёд*
*пры першых кроках*
*І праламаўся, дзе глыбока.*
*Вада — агонь, і вецер стылы.*
*Заві сяброў, пакуль ёсць сілы.*

*Твой сябра ў ледзяным палоне,*
*Ты ж не забудзь аб тэлефоне.*
*Дарослых кліч на дапамогу*
*І помні сам пра асцярогу.*

# *Тэлефоны службаў бяспекі:*

МНС — 101,
міліцыя — 102,
хуткая — 103,
газ — 104.

## *Калі трэба званіць па тэлефоне 101:*

- у любых выпадках, калі ёсць пагроза небяспекі;
- калі адкрытым агнём гарыць будынак, аўтамабіль, лес, іншыя аб'екты, з памяшкання клубіцца дым і г. д.;
- падазраяце, што чалавек наважыўся здзейсніць самазабойства;
- трэба вызваліць людзей, якіх заціснула ў разбітым аўтамабілі, пад руінамі дома, зашчаміла вывернутым дрэвам ці абсталяваннем.

## *Калі трэба званіць па тэлефоне 102:*

- вы сведка аварыі, у якой пацярпелі людзі;
- на вуліцы з вашых рук выхапілі сумку, адабралі мабільны тэлефон, укралі кашалёк або іншыя рэчы;
- знайшлі рэч, падобную на ўзрыўчатку;
- заўважылі асобу, якую расшукваюць органы правапарадку;
- хтосьці мае намер сапсаваць ці знішчыць вашу маёмасць;
- вы бачыце бойку ці сутыкнуліся з рабаўнікамі.

## *Калі трэба званіць па тэлефоне 103:*

- бачыце на зямлі нерухомага чалавека і ёсць падазрэнне, што ён страціў прытомнасць;
- бачыце, што чалавек задыхаецца, яго мучыць удушша;
- бачыце, што ў чалавека траўма ад электрычнасці — пападанне маланкі, удар току;
- у вас ідзе кроў і вы самастойна не можаце яе спыніць.

***Калі нельга званіць па тэлефонах службаў бяспекі:***

- карціць пажартаваць і паведаміць аб нейкім выдуманым здарэнні;
- трэба даведацца нумар тэлефона, адрас і від дзейнасці асобы ці арганізацыі;
- трэба даведацца расклад руху аўтобусаў, паяздоў, самалётаў;
- папрасіць, каб вас злучылі з замежным абанентам тэлефоннай сувязі;
- хочаце праверыць, ці сапраўды працуе тэлефон службы выратавання;
- заказаць піцу на дом;
- даведацца свой гараскоп;
- хочаце выказаць сваю думку аб настаўніках, бацьках, іншых людзях і суб'ектах;
- падключыцца да інтэрнэту;
- праверыць, ці працуе ваш тэлефон;
- хочаце проста сказаць, што вам не трэба ніякай дапамогі;
- хочаце зняважыць аператара;
- хочаце падурыцца ад самоты.

## ***Запомніце*!**

*Тэлефануючы ў службы бяспекі не па прызначэнні, вы займаеце тэлефонную лінію, таму чалавек, якому на самай справе патрэбна тэрміновая дапамога, у гэты момант можа не дазваніцца, а служба марна траціць свае рэсурсы, таму іх можа не быць там, дзе яны вельмі патрэбны.*

# *Правілы бяспекі дома*

- Не пакідайце без нагляду ўключаныя пліту, прас, чайнік, іншыя электрапрыборы. Уключайце іх толькі пад наглядам дарослых.
- Не сушыце бялізну над запаленай канфоркай. Калі загарэўся тлушч на патэльні, выключыце пліту, накрыйце патэльню мокрай анучай і чакайце, пакуль тлушч не астыне.
- Калі вы адзін дома, замкніце дзверы на ключ, ніколі не адчыняйце незнаёмым людзям. Не выходзьце на лесвічную пляцоўку, калі вас настойліва выклікае незнаёмец.
- Дома навідавоку павесьце аркуш паперы з тэлефонамі бацькоў і знаёмых. Гэтаксама запішыце тэлефоны службаў выратавання, каб у выпадку няшчасця ведаць, куды пазваніць.
- Калі вы пачулі пах газу, без прамаруджвання закруціце краны на трубе. Не ўключайце ніякіх электрапрыбораў, не карыстайцеся запалкамі. Адчыніце акно і пазваніце ў аварыйную газавую службу.
- Не выкарыстоўвайце самастойна сродкі бытавой хіміі. Калі небяспечныя рэчывы трапілі ў вочы або на скуру, прамыйце іх чыстай летняй вадой. Памыйце з мылам рукі, твар, іншыя часткі цела. Пераапраніцеся — так вы зможаце пазбегнуць кантакту з рэшткамі хімікатаў на адзенні.

# *Як пазбегнуць пажару*

- Ніколі не гуляйце з запалкамі і электрапрыборамі. Ні ў якім выпадку не ліце ваду на электрапрыбор, які загарэўся, пакуль не выключылі яго. Выцягваючы шнур з разеткі, трымайцеся за штэпсель.
- Не пакідайце надоўга ўключаныя электрапрыборы: пліту, чайнік, прас і іншыя, карыстайцеся імі толькі пад назіраннем дарослых. Не сушыце бялізну над плітой.
- Не трымайце дома матэрыялы, якія лёгка загараюцца: старую мэблю, макулатуру, своечасова выносьце смецце.
- Папрасіце бацькоў, каб яны ўсталявалі дома аўтаномныя пажарныя апавяшчальнікі, якія сігналам паведамяць, што пачаўся пажар. Старанна выцірайце пыл з прыбора, своечасова мяняйце батарэйкі.
- Разам з бацькамі абмяркуйце свае дзеянні на крайні выпадак, загадзя вызначце абавязкі кожнага члена сям'і, калі здарыцца пажар або іншая экстрэмальная сітуацыя. Трэба ведаць: чым тушыць агонь, як выходзіць з задымленага памяшкання, каму і як паведамляць аб трагічным здарэнні.
- Калі ўсё-такі пажар узнік, звaніце ў службу па тэлефоне 101, паведаміце дакладны адрас, дзе і што гарыць, ці ёсць пацярпелыя.

# *Дзеянні пры пажары*

- Калі пачаўся пажар, пастарайцеся як мага хутчэй выбегчы з кватэры ці дома і вывесці меншых дзяцей. Клічце на дапамогу! **Тэлефануйце 101.** Не ратуйце ў паніцы маёмасць, пакіньце памяшканне, зачыніце дзверы, але не на ключ. Не карыстайцеся ліфтам, спусціцеся па лесвіцы.
- Дакраніцеся да дзвярэй. Калі яны гарачыя, значыць, там пажар. Калі не можаце выйсці на лесвічную пляцоўку, адчыніце акно ці выбежыце на балкон і гучна клічце на дапамогу.
- Ніколі не вяртайцеся ў дом або кватэру, якія гараць. Калі пажар патушаць, у памяшканне зайсці можна толькі з дазволу пажарнікаў.
- Калі ў пакоі шмат дыму, кладзіцеся на падлогу і прабірайцеся паўзком. На падлозе лепш відаць і лягчэй дыхаць. Калі можаце — прыкрыйце рот і нос мокрай тканінай, не прарывайцеся праз суцэльны агонь.
- Пры пажары ніколі не хавайцеся пад ложкам, сталом або ў шафе — гэта не абароніць, а пажарнікам будзе намнога складаней вас знайсці. Заўсёды спрабуйце выйсці з задымленага памяшкання. Калі на вас загарэлася адзенне, падайце на зямлю і качайцеся па ёй, стараючыся патушыць языкі полымя. Беражыце твар, закрыйце яго рукамі.
- Калі загарэлася вопратка, не бяжыце, таму што агонь возьмецца яшчэ мацней. Калі ў бядзе іншы чалавек, паваліце яго на зямлю, агонь на адзенні тушыце тым, што ёсць пад рукамі, апечаныя месцы ахалоджвайце вадой, снегам. Як мага хутчэй выклікайце хуткую дапамогу па тэлефоне 103.

# Небяспека летам

- Купайцеся толькі ў спецыяльна абсталяваных, добра знаёмых вам месцах пад наглядам бацькоў. Не прыбліжайцеся да катэраў, лодак, караблёў, не адплывайце далёка ад берага. Не плавайце на надзіманых матрацах, аўтамабільных камерах, саморобных плытах. Калі вы пачалі тапіцца, пастарайцеся ўдыхнуць як мага больш паветра і крыкам, махаючы рукамі, звяртайце на сябе ўвагу.
- Калі набліжаецца бура, бліскаюць маланкі, то не купайцеся, не гуляйце ў двары, а як мага хутчэй бяжыце дадому. Зачыніце вокны, каб не было скразняку, які можа засмактаць шаравую маланку. Абавязкова выключыце электрапрыборы. Калі бура запыніла на вуліцы, то не стойце пад высокімі адзіночнымі дрэвамі, каля электраслупоў або сцен будынкаў. Лепш за ўсё схавацца ў кустах або прысесці на схіле пагорка ці канавы, абхапіўшы калені рукамі.
- У лесе асцерагайцеся кляшчоў, выкарыстоўвайце сродкі, што адпалохваюць насякомых, насіце светлую вопратку. Калі насякомае ўсё ж укусіла, на свежую ранку прыкладзіце ахаладжальны кампрэс і папрасіце дарослых, каб паказалі вас доктару.
- Калі вы ўбачылі чалавека, які топіцца, крычыце, каб звярнуць увагу людзей, неадкладна выклічце службу выратавання на водах. Пры магчымасці кіньце тапельцу выратавальны круг ці нейкі прадмет, які не тоне ў вадзе. Гукайце на дапамогу дарослых.
- Не набліжайцеся да дзікіх жывёл, не дражніце іх. У лесе не падпальвайце траву, не разводзьце вогнішчы, не кідайце смецце. Убачыўшы, што пажар яшчэ толькі разгараецца, не праходзьце міма, а пастарайцеся самі яго патушыць. Малы агонь тушыце з дапамогай галля, вопраткі або тапчыце нагамі. Калі ў вас не выйшла збіць языкі полымя, тэрмінова выклічце пажарную ахову.
- У лес хадзіце толькі разам з дарослымі. Калі вы раптам заблудзіліся, але пры сабе ёсць мабільны тэлефон, званіце дарослым або на нумар службаў бяспекі. Калі тэлефона няма, моцна шуміце, выяўляючы крыкам сваё месцазнаходжанне. Ідучы ў лес, заўсёды бярыце з сабою свісток.

# Небяспека зімой

- Не катайцеся на каньках, не гуляйце на замёрзлых вадаёмах і каля іх. Асабліва асцярожнымі трэба быць каля берагоў, таму што лёд тут самы тонкі і могуць пайсці трэшчыны.
- Катайцеся на каньках, лыжах і санках толькі пад наглядам бацькоў і ў месцах, якія прызначаны для гэтага, далей ад дарогі.
- Калі вы праваліліся пад лёд — не кідайцеся ў паніку. Клічце людзей на дапамогу, не цялёпкайцеся ў вадзе і ўсёй вагой цела не кладзіцеся на ўскраек ільдзіны. Ускарабкаўшыся на лёд, каціцеся па ім як мага далей ад палонкі ў тым жа напрамку, адкуль прыйшлі. На беразе не стойце, бегма шукайце месца, дзе можна абагрэцца.
- Піратэхнікай карыстайцеся толькі ў прысутнасці дарослых. Калі ўзнік пажар ад неасцярожнага абыходжання з выбуховымі рэчывамі, адразу ж званіце пажарнікам. Прадметы, якія загарэліся ад піратэхнікі, калі гэта не электрапрыборы, лепш за ўсё тушыць вадой або тоўстай тканінай.
- Не ўпрыгожвайце навагоднюю ёлку свечкамі: адкрыты агонь можа перакінуцца на сухую іглiцу. Перад тым як павесіць гірлянды, папрасіце дарослых, каб праверылі лямпачкі, замянілі перагарэлыя. Калі провад гірлянды пашкоджаны, лепш выкіньце яго.
- Калі на замёрзлым вадаёме вы бачыце, што чалавек праваліўся пад лёд, тут жа клічце на дапамогу ці званіце ў службу бяспекі. Да праламкі набліжайцеся вельмі асцярожна, лепш за ўсё паўзком, шырока раскінуўшы рукі. Чалавеку, які топіцца, працягніце кій або канец дошкі і, калі той ухопіцца за яго, цягніце з вады. На лёдзе будзьце асцярожнымі, паўзіце далей ад палонкі, дапамагайце пацярпеламу. Калі вы ўжо дабраліся да бяспечнага месца, хутчэй адагрэйце ахвяру і выклічце медыцынскую дапамогу.